ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 32 (88) 7 - 13 кастрычніка 1994 г. Кошт 50 рублёў

«Я быў на парозе злачынства, якое хацелі зьдзейсьніць маімі рукамі пад лічынай патрыятызму» - ст.

«Вярнуўшыся на Беларусь, наноў адчуў, што трапіў у вельмі зпалітызаванае грамадзтва...» - ст. 3.

«Уся надзея на дзеда Аўдзея», альбо як вяскоўцы апярэдзілі вайскоўцаў - ст. 6.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПАМЯЦІ ПАЎСТАНЦАЎ

29 верасьня ў Горадні адбыліся ўрачыстасьці, прысьвечаныя 200-м угодкам вызвольнага паўстаньня пад кіраўніцтвам А.Т.Касьцюшкі. Горад над Нёманам стаў адзіным месцам у Беларусі, дзе сьвяткаваньне адбылося на дзяржаўным узроўні. Пачалося яно адкрыцьцём на Новым Замку мемарыяльнай дошкі (аўтар - У.Паньцялееў), на якой зроблены надпіс: "Тут, у каралеўскім палацы ў час вызвольнага паўстаньня 1794 г. з 14.05 да 30.09 працавала Гарадзенская Парадкавая Камісія. 29.09.1794 г. Ў яе працы ўдзельнічаў кіраўнік паўстаньня А.Т.Касьцюшка, які адзначыў паўстанцкімі ўзнагародамі Т.Ваўжэцкага, Я.Ясінскага, С.Макраноўскага, С.Корсака, Я.Гарноўскага, Г.Гедройца".

Перад прысутнымі выступілі мэр Горадні Г.Крупенка, намесьнік старшыні камісіі ВС РБ па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны А.Трусаў, загадчык кафедры беларускай філалогіі і культуры Гарадзенскага Дзяржаўнага ўнівэрсітэта А.Пяткевіч. Яны ў сваіх прамовах ўспомнілі падзеі таго часу, гаварылі аб далейшай барацьбе беларускага народа за вызваленьне.

Потым у Новым Замку адчынілася выстава прафесійных мастакоў, прысьвечаная знамянальнай даце.

Урачыстасьці працягнуліся ў тэатры лялек. Там прайшла сьвяточная вечарына. Некалькі сваіх музычных твораў на ёй выканаў вядомы гарадзенскі бард В.Шалкевіч. Беларускія народныя песьні і музыка кампазітараў-сучасьнікаў Т.Касьцюшкі прагучала ў выкананьні Гарадзенскай харавой капэлы і ансамбля старадаўняй музыкі.

Мэр горада Г.Крупенка, сказаўшы колькі слоў пра паўстаньне, паведаміў, што хутка будзе выдадзены прысьвечаны яму плакат, а таксама, што вуліцам Горадні ўжо дадзены імёны вайсковых каманьдзіраў-паўстанцаў, а яшчэ дзьве вуліцы плануецца назваць у гонар Т.Касьцюшкі і Я.Ясінскага.

Ва ўрачыстасьцях прынялі ўдзел дыпламаты краін, ганаровым грамадзянінам якіх зьяўляецца Андрэй Тадэвуш Бонавентура Касьцюшка: Часовы Паверaны ў справах ЗША ў Рэспуліцы Беларусь Джордж Крол, вайсковы аташэ ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Зігорыс Томас, вайсковы аташэ Пасольства Францыі ў Беларусі Жан-Іў Бурыс, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Эльжбэта Смулэк, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Летувіскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Р.Баўбліс. Яны расказалі аб некаторых фактах з жыцьця А.Касьцюшкі і паведамілі, што ў краінах, якія яны прадстаўляюць, шануецца яго імя. Імі была выказана задаволенасьць тым, што гэта пачынаюць рабіць і на радзіме, у Беларусі, якая, як ён і марыў, стала вольнай.

**А.ДУК.**

**ФатаграфаваЎ У.УЛАДАСЕВІЧ.**



### Менск - Горадня

*Шаноўнае спадарства Рэдакцыйнай калегіі газеты "ПАГОНЯ"!*

*Газету шаную, заўсёды падтрымліваю. З удзячнасьцю ўспрыняла і публікацыю пра сьвята ўшанаваньня памяці Ларысы Антонаўны Геніюш (27 жніўня - 2 верасьня) у N 28. З Ларысай Антонаўнай я перапісвалася яшчэ ў 60-ых гадах, вядома ж, патаемна. Лісты перадаваліся праз аднаго знаёмага студэнта з Зэльвы. Дарэчы, лісты тыя ад Ларысы Антонаўны да мяне і Яўгеніі Янішчыц былі надрукаваны ў часопісе "Беларусь". Вось чаму, паўтаруся, публікацыя пра сьвята ў "Пагоні" мяне ўсьцешыла. Аднак чамусьці не названа ані слоўцам, што сьвята праводзілася па ініцыятыве Усебеларускага жаночага фонду Еўфрасіньні Полацкай пры падтрымцы Саюза пісьменьнікаў, а таксама Інстытута літаратуры, "Бацькаўшчыны". Праўда, названа БЗВ, але ж гэта няпоўная інфармацыя.*

*Мяркую, што калі б газета назвала ініцыятараў сьвята, фонд Е.Полацкай, то гэта аніякім чынам не запярэчыла б прынцыпам інтэлігентнасьці і творчай журналісцкай этыкі.*

*З павагай*
*Валянціна КОЎТУН.*

## СТАЛІЦА ГОРАДНІ НЯ ПРЫКЛАД?

З 1-га кастрычніка ў сталіцы Беларусі ў 2,5 раза ўзьняліся цэны на праезд у грамадзкім транспарце. У аддзеле цэн Гарадзенскага аблвыканкама паведамілі, што жыхароў вобласьці гэта пакуль не чакае. Хаця пытаньне павышэньня цэн на паслугі гарадзкога аўтатранспарту ўзьнімалася "Гроднааблаўтатрансам", аддзел пакуль яго не распрацоўваў, бо няма дзеля гэтага падстаў: толькі ў верасьні яны ўжо павялічыліся, электраэнергія і газ прадаюцца па ранейшых цэнах, памер мінімальнага заробку таксама не зьмяніўся. Але цалкам магчыма, што яно зноў паўстане пасьля 10-га кастрычніка, калі, як мяркуецца, узьнімуцца цэны на электраэнергію і газ.

У аддзеле цэн абвергл і чуткі аб плануемам, быццам бы, значным падаражэньні мяса. Улічваючы, што закупачныя цэны на яго ўзрасьлі на шэсьць працэнтаў, розьнічныя павялічацца прыкладна на дзесяць.

**А.ДУК.**

## "CUDOWNA PODROZ" НА ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЕ

Напрыканцы верасьня ў Горадні аднавіла друкаваньне польскамоўная маладзёжная газета "Cudowna Podroz". На зьдзіўленьне многіх, першы сёлетагодні нумар выйшаў на дзьвюх мовах: польскай і беларускай.

Ва ўступным слове рэдактар выданьня Уладзімір Малашкевіч даводзіць, што газета мае свае праграмныя мэты. Гэта папулярызацыя беларускай і польскай навукі, культуры і гісторыі, а таксама "беларускай і польскай мовы".

Дарэчы, адзіная пакуль што на Беларусі беларуска-польская газета будзе выходзіць адзін раз на месяц.

## ВАЙСКОЎЦЫ ДЗЕЛЯЦЦА

Бліз Карэлічаў адбылася перадача вайсковай тэхнікі на патрэбы калгасаў і саўгасаў. Усяго сельскім гаспадаркам было перададзена 65 адзінак аўтатэхнікі.

Аўтамабілі сяльчанам без усялякай аплаты перадаў 28-мы механізаваны корпус Беларускіх Узброеных Сілаў, штаб якога дыслакуецца ў Горадні.

Як ня дзіва, але сярод шчасьліўцаў не аказалася ніводнага фермера. Пра іх бравыя афіцэры проста не ўспомнілі..

## МІЛАСЭРДНАСЬЦЬ ПА НУМАРУ 743

Вабласным таварыствам Чырвонага Крыжа Горадні праводзіцца акцыя па збору сродкаў, рэчаў для нямоглых пад назовам "Ураджай-94". Сродкі і рэчы мяркуецца часткова разьмеркаваць сярод пенсіянераў, а другую частку плануецца праз арганізацыі Чырвонага Крыжа перапраўіць у пацярпелыя ад паводкі раёны Рэспублікі Малдовы.

Нагадваем рахунак для перавядзеньня сродкаў: N 743 у Белбізнесбанку г.Горадні.

## СЬВІНАРНІК ПА ЭЎРАПЕЙСКАМУ СТАНДАРТУ

У Смаргонскім раёне пабывала дэлегацыя Эўрапейскага эканамічнага супольніцтва. Прадстаўнікоў ЭЭС цікавілі эканамічна-трывалыя гаспадаркі, з якімі яны маюць намер наладзіць дзелавыя стасункі.

Ёсьць і першыя пагадненьні: так, у калгасе імя Дзяржынскага з дапамогай ЭЭС будзе збудаваны сьвінарнік па эўрапейскаму стандарту вырошчваньня сьвіней. Таксама вывучаюцца магчымасьці культывацыі сучасных тэхналогій у севаабароце.

**(Ул.інф.)**

## ПАД ДАХАМ ФОНДА ІМЯ Л.САПЕГІ

Напрыканцы верасьня ў Менску Цэнтрам Праблем Самакіраваньня пры Беларускім Рэспубліканскім Фондзе Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў імя Л.Сапегі была наладжана навуковая канферэнцыя, прысьвечаная абмеркаваньню канцэпцыі рэфармаваньня дзяржаўнага кіраваньня на мясцовым узроўні і сістэмы мясцовых прадстаўнічых органаў улады.

Дэлегаты, а прысутнічала на канферэнцыі прыкладна 200 чалавек з усіх рэгіёнаў Беларусі, абмеркавалі пакуль што першапачатковы варыянт канцэпцыі, выказалі свае думкі. Мэр горада Маладзечна - народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня партыі Народнай Згоды - наконт рэфармаваньня органаў улады сказаў так: "Структура канцэпцыі адпавядае Эўрапейскай Хартыі Тэрытарыяльнага Самакіраваньня і для яе ажыцьцяўленьня ня трэба шкадаваць сілаў."

**А.Б.**

## БЕЛАРУСЬ – ТРАНСПАРТНЫ КАРЫДОР

На рабочым паседжаньні ў Менску групы па зьдзяйсьненьню праэкта "Транспартны карыдор Берлін - Варшава -Менск - Масква" узялі ўдзел прадстаўнікі больш чым 50-ці арганізацый, банкаў з Беларусі, Расеі, Нямеччыны, Польшчы, а таксама рэферэнт Сусьветнага банку рэканструкцыі і развіцьця.

ЭББР ужо асігнаваў Мінтрансу Беларусі крэдыт памерам 45 мільёнаў экю для аднаўленьня 230-кіламетровага ўчастка "Алімпійскай шашы" на 1994-1997 гады.

Пасьля рэканструкцыі гэты ўчастак дарогі будзе платным.

**(Ул. інф.)**

## ЧАТЫРЫ ПАКОІ НА МУЗЕЙ

Чатыры невялічкія пакоі выдзелены адміністрацыяй ТМА-2 Горадні для арганізацыі ў вабласным цэнтры музея каталіцкаму пакутніку Максімільяну Кольбэ.

На жаль, пакоі, дзе раней мясьцілася кафедра ГрДМІ, патрабуюць добрага рамонту.

Карэспандэнту "Пагоні" у курыі Гарадзенскай каталіцкай эпархіі адказалі так: "Эпархія не мае сродкаў, якія патрэбны. Таму будуць прымацца ахвяраваньні ад вернікаў у касьцёле Францішканцаў Горадні.

**Г.Д.**

## ТАЎСТУНЫ ЛЕТУВЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

У кастрычніку ў Коўні адбудзецца першы на Летуве марафон танца для тоўстых. Марафон пройдзе ў рэстаране "Вілія" і будзе міжнародным - выклік летувіскіх таўстуноў прынялі чухонцы.

Дарэчы, самым цяжкім на фестывалі будзе 170-кілаграмовы Р.Сухоцкі, самая габарытная ледзі важыць 130 кілаграмаў. На думку арганізатараў марафону, жанчыны Коўні самыя поўныя ў сьвеце, яны разьлічваюць на марафон як на рэкламнае шоў, якое зьвярне на іх увагу вынасьлівых і поўных мужчын.

**(Л.д.)**

## У РЫЗЕ - БЕЛАРУСКІ КЛАС

Па ініцыятыве рыскага мастака Вячаслава Целеша, беларуса па паходжаньню, рыская гарадзкая дума прыняла рашэньне ў СІШ N 15 латвійскай сталіцы стварыць беларускі клас, дзе чатыры гадзіны на тыдзень дзеці з беларускіх сем'яў будуць вывучаць беларускую мову і гісторыю. Працу настаўнікаў першага беларускага класа аплочвае міністэрства адукацыі Латвіі. Падручнікі для навучэнцаў пастаўляюцца пасольствам Беларусі ў Латвіі.

У адкрыцьці беларускага класа ў Рызе ўзяў удзел беларускі пасол у Латвіі Валянцін Вялічка.

**(Ул.інф.)**



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## МЭТА - ЗАХАПІЦЬ ВІЛЕНШЧЫНУ

**Летам 1991 года на тэрыторыі сумежных раёнаў Гарадзеншчыны з Віленшчынай Савецкім КДБ патаемна з ліку мясцовых і заезжых добраахвотнікаў рыхтаваліся збройныя атрады для захопу часткі Летувы - Віленскага краю з мэтай стварэньня на захопленай тэрыторыі прасавецкі настроенага аўтаномнага Віленскага краю.**

**Пра гэта й расказвае карэспандэнт "Пагоні", былы жыхар Ашмян Віктар Л.**

Нам было крыўдна, што Вільня, куды мы змалку езьдзілі на матаролерах, стала недасягальнай. Дакладна не назаву дзень, але было гэта вясной 1991 года. Мяне й брата завербавалі спецслужбы КДБ да добраахвотніцкага атраду, які рыхтаваўся на тэрыторыі адной вайсковай часткі бліз Ашмян. У атрадзе нам далі зброю, строі. Па некалькі раз на тыдзень былі вучэньні. Да праграмы вучэньняў уваходзіла стральба, кросы і спецпадрыхтоўка. Атрад наш быў невялікі, але хадзілі чуткі, што ящчэ каля дзесяціпятнаццаці такіх жа ўтварэньняў базіруюцца на тэрыторыях вайсковых частак Воранаўскага і Астравецкага раёнаў. Лучнасьці з гэтымі збройнымі групамі мы не мелі. Проста рыхтаваліся з дапамогай бронетэхнікі, аўтаматаў і усёведаючых інструктараў захапіць Віленшчыну, пацясьніць жмудзінаў да Коўні. Пра час выступу мы таксама не былі інфармаваны. Нам казалі так: "Поступит сигнал сверху и тогда вперед". Але нечакана здарыліся падзеі ў жніўні 1991 года. "ГКЧП" прайграла ў Маскве. Нашы "добраахвотніцкія" атрады былі раззброеныя й расфармаваныя. Скажу шчыра, была горыч, што мара праехаць з аўтаматам Калашнікава на бэтээры па Вільні ня зьдзейсьнілася. Той-сёй у знак пратэсту збег са зброяй у руках з базы. Іх ніхто не шукаў. Начальства ад страху замятала сьляды й разьбягалася. Гледзячы на ўсё гэта, я пераканаўся, што палітыка - брудная справа. Выраўшы болей ніколі не прымаць удзелу ў такіх гульнях. Зараз, калі асэнсоўваю недалёкую мінуўшчыну, гляджу па тэлевізары падзеі ў Босьніі, Абхазіі, ці Чачне, то разумею, што і я быў на парозе вялікага злачынства, якое лісьлівыя інструктары хацелі зьдзейсьніць маімі рукамі пад лічынай патрыятызму.

## ЦІ АЧЫСЬЦІЦЦА «АЧЫШЧЭНЬНЕ»?

У актавай залі Ленінскага райвыканкаму Горадні адбылося паседжаньне Саюза па барацьбе з карупцыяй "Ачышчэньне" - сумнавядомай грамадзкай арганізацыі ў падтрымку Лукашэнкі. Усяго ачышчэнцаў набілася да залі больш за сто чалавек - пераважна людзі сталага ўзросту. Яны пажадалі актыўна падтрымліваць прэзыдэнта Беларусі ў ягонай барацьбе з карупцыянерамі і мафіяй. Для гэтага было вырашана пашырыць геаграфію арганізацыі. Думку аб стварэньні вабласнога саюза "Ачышчэньне" падтрымалі і нават абралі на будучую канферэнцыю дэлегатаў.

Зусім іншую рэакцыю выклікала ў прысутных выступленьне члена Саюза "Ачышчэньне" Яўгеніі Уладзіміраўны Уладзіміравай. 64-гадовая жанчына пажадала быць скарбнікам "Ачышчэньня", навесьці парадак са сродкамі, якія, дарэчы, ахвяравалі, па словах прамоўцы, вялікімі сумамі - дзьвесьце і болей тысяч. Усяго афіцыйна было зроблена чатыры зборы сродкаў на патрэбы "Ачышчэньня", але, як засьведчыла карэспандэнт "Пагоні" спадарыня Я.У.Уладзімірава, ніхто і ніколі не лічыў грошай і не даваў справаздачу аб іх выкарыстаньні.

Сёй-той з ачышчэнцаў абураўся, а большасьць пляскала ў ладкі. Высьветлілася таксама, што на праверку крамаў гарадзенская група "Ачышчэньне" ня мае дазволу. Актывісты яе дзейнічаюць, схаваўшыся за пасьведчаньні грамадзкага аб'яднаньня абароны спажыўцоў.

**Г.Д.**

## ТРОМ ЖУРНАЛІСТАМ РАДЫЁ ПРАПАНАВАНА НАПІСАЦЬ ЗАЯВЫ АБ ЗВАЛЬНЕНЬНІ ПА АСАБІСТАМУ ЖАДАНЬНЮ

Намесьнік старшыні Дзяржтэлерадыё У.Ядранцаў, які курыруе работу радыё, прапанаваў напісаць заявы аб звальненьні па асабістаму жаданьню тром журналістам - галоўнаму рэдактару Грамадзкіх і сацыяльна-эканамічных праграм Яўгену Казюкіну, каментатару Тацьцяне Працько і рэдактару Эдварду Тарлецкаму. Адбылося гэта пасьля таго, як Т.Працько ў эфіры пракаментавала словы Прэзыдэнта аб школьных падручніках, у якіх, на яго погляд, прэвалююць ідэі нацыяналізма. Журналісты пісаць заявы адмовіліся, што, між іншым, не мае прынцыповага значэньня, паколькі з кастрычніка ўсе супрацоўнікі Дзяржтэлерадыё звольнены ў сувязі з чарговым зьмяненьнем Статута сваёй "фірмы" - Дзяржтэлерадыё наноў маець назоў Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Верагодна, што на работу будуць прыняты далёка не ўсе звольненыя.

## ФЯДУТА ЗРАБІЎ ПРАПАНОВУ ЛІТВІНОЙ

Як стала вядома, на мінулым тыдні А.Фядута прапанаваў вядомай журналістцы Ж.Літвіной заняць пасаду прэс-сакратара прэм'ер-міністра Беларусі. Спадарыня Літвіна адказала адмовай на яго прапанову. Па зьвестках, якія ёсьць, яна зараз актыўна працуе над стварэньнем незалежнай радыёстанцыі і наўрад ці зьбіраецца зьвязваць свой далейшы лёс з дзяржаўнымі структурамі.

**СІМ**

## ФЭСТ У КАСЬЦЁЛЕ ФРАНЬЦІШКАНЦАЎ



**У Гарадзенскім касьцёле Франьцішканцаў адбыўся фэст, прысьвечаны 100-годдзю каталіцкага пакутніка Максімільяна Кольбэ.**

**Для ўшанаваньня сьветлай памяці Максімільяна да Горадні прыехала 40 біскупаў. Канцалебраваную імшу адслужыў яго Эміненцыя Мітрапаліт Уроцлаўскі, Ксёндз Кардынал Генрых Гульбіновіч.**

**(Ул. інф.)**

# ПРАСЯКНУЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭЯЙ

Апошнім часам у шэрагу беларускіх выданьняў так ці інакш уздымаецца пытаньне нацыянальнай ідэі. Здаецца, раней зацкаваная тэма, становіцца папулярнай. Нават высакаступеныя асобы з атачэньня прэзыдэнта не цураюцца яе. Напрыклад, Дзьмітры Булахаў у газетным інтэрв'ю ("Зьвязда" ад 30 ліпеня г.г.) пераконваў чытачоў, што Аляксандр Лукашэнка - прыхільнік "беларускай дзяржаўнай ідэі".

Праўда, 35-гадовы Заслужаны юрыст Беларусі не надта адрозьнівае нацыянальную і дзяржаўную ідэі. Альбо асьцярожнічае, як гэта ўвогуле за ім назіраецца. Альбо спрабуе выдаць пажаданьне за рэальнасьць. Ну нельга ж на поўным сур'ёзе сьцьвярджаць, што спалучэньне розных поглядаў людзей, якія жывуць на адной зямлі, у адной дзяржаве - і ёсьць дзяржаўная ідэя. Карацей, шукай згоду паміж рознымі грамадзянскімі структурамі, аб'яднаньнямі прадпрымальнікаў, прафсаюзамі, канфесіямі - абы не біліся.

Вось такое разуменьне дзяржаўнай ідэі.

Шкада, што Д. Булахаў не пацікавіўся гісторыяй разьвіцьця беларускай нацыянальнай ідэі. І шукаць далёка ня трэба. Дастаткова пагартаць падшыўку "Літаратуры і мастацтва" за апошнія дватры гады, пачытаць артыкулы вядомага дасьледчыка і публіцыста А.Сідарэвіча, які дасьледаваў дзейнасьць Беларускай сацыялістычнай Грамады, што была заарганізавана напачатку стагоддзя.

Моцны штуршок разьвіцьця беларускай нацыянальнай ідэі назіраўся ў 20-ыя гады. І цікава тое, што нацыянальна сьвядомыя пісьменьнікі стварылі такія аповесьці і раманы, якія і зараз чытаюцца з цікавасьцю. Андрэй Мрый, Барыс Мікуліч, Міхась Зарэцкі, Лукаш Калюга ды іншыя былі шчыра прасякнуты беларускасьцю, інтэрнацыянальнае ўспрымалі толькі праз нацыянальнае, рашуча выступалі супраць бальшавіцкай ідэі перавагі агульнага над прыватным.

За гэта і пацярпелі, былі рэпрэсаваныя.

Разьвіцьцё беларускай нацыянальнай ідэі ў Савецкай Беларусі было гвалтоўна спынена шэрагам судовых працэсаў па справах так званых нацдэмаў. Расстралялі і гэтых. Сотні патрыётаў апынуліся ў Сібіры, адкуль не вярнуліся.

Але, на шчасьце, была Заходняя Беларусь з цэнтрам у Вільні. Былі людзі, якія не выракліся нацыянальнай ідэі, а па-ранейшаму распрацоўвалі, як цяпер гаворыцца, шлях да Беларусі. Антон Луцкевіч, Франьцішак Аляхновіч, Адам Станкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Натальля Арсеньнева, Міхась Забэйда-Суміцкі, Язэп Драздовіч - кожны па-свойму шчыраваў на ніве Беларушчыны, нягледзячы на перасьледы тагачасных польскіх улад, шалёную лаянку і непрыхаваную пагрозу, што няспынна гучалі з Савецкай Беларусі.

Над усім гэтым стаяла постаць Янкі Купалы. Даведзены "кампетэнтнымі ворганамі" да самазабойства, ён, дзякуючы жонцы, не загінуў. Да канца сваіх дзён пясьняр заставаўся верным нацыянальнай ідэі. Пачытайце яго вершы 20-30 гадоў, дарэвалюцыйныя творы. Які гонар за беларуса, вера ў яго шчасьлівую будучыню, нянавісьць да захопнікаў з Усходу і Захаду!.. Яму два месяцы не далі дажыць да 60-годдзя з дня нараджэньня. Ведалі, што юбілей Купалы - гэта ўздым нацыянальнага вызваленчага руху па абодва бакі фронту.

У пасьляваенны час гаварыць пра стаўленьне ці адраджэньне нацыянальнай ідэі не даводзіцца. Культываваўся так званы інтэрнацыяналізм: забудзь сваё, карыстайся агульным, што на практыцы азначала шырокую русіфікацыю ва ўсіх галінах жыцьця. Пачаўся шырокі наступ рускай мовы ці лепш сказаць, савецкай мат-мовы. І сёньня вы яе чуеце на вуліцы, у школе, у кіно і г.д.

І вось, глядзі ж ты, пад гэтым попелам захаваўся агеньчык нацыянальнай ідэі! Нібыта чакаў свайго часу, вольнага ветру, каб запалымнець, разарваць цемру забыцьця. Упэўнены, што марудлівы рух Беларусі да пераменаў, якія адбываюцца ў постсацыялістычных краінах, якраз і тлумачыцца недаацэнкай нацыянальнай ідэі. Няма стрыжня, вакол якога гуртавалася б грамадства. Што сёньня аб'ядноўвае беларускае грамадства? Нічога! Старэйшае пакаленьне само па сабе, моладзь наогул акрамя "баксаў" нічым не цікавіцца. Якімі словамі заклікаць людзей працаваць, уздымаць эканоміку і пры гэтым замарожваць зарплату і адначасова адпускаць цэны? Камуністычныя лозунгі накшталт "сьветлай будучыні", у імя наступных пакаленьняў ужо ніколі не запрацуюць. Няма дурняў!

Застаецца адзінае - у імя нацыі, краіны, асобы. Павінна панаваць перакананьне, што мы ня горшыя за іншых, у нас свой гонар - беларускі, у нас свая Радзіма, свой народ. Хто здолее з кіраўніцтва Беларусі так павесьці справу - той выйграе. Толькі дарожнымі каменьнямі тут стаяць незалежнасьць, самастойнасьць, рынкавая эканоміка...

З прычыны глыбокай нацыянальнай сьвядомасьці далёка адышлі наперад прыбалтыйскія суседзі, упэўнена глядзяць іншыя краіны Закаўказьзя, зварухнулася і Ўкраіна, не гаворачы пра Расею. Часьцяком па тэлебачаньню прарываецца то песьня ў выкананьні Пугачовай, то тэлеролік, то перадача, дзе гучыць непрыхаваны заклік: мы, рускія, мы - вялікая нацыя, мы падымемся з каленяў.

Ну а мы, беларусы? Калі нацыя, то дзе нацыянальны характар як неад'емная частка нацыянальнай ідэі? Няўжо нашу беларускую сьвядомасьць так размылі прыхадні, так утапталі ў бруд, што праз стагоддзі не адмыцца?

**В.ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат Гарадзенскага**
**вабласнога Савета.**

## БЫЛЫ ШЭФ СПЕЦСЛУЖБЫ ЗЬНЯЎ АБВІНАВАЧАНЬНЕ СУПРАЦЬ ЖУРНАЛІСТА

4-га кастрычніка працягвалась судовае разьбіральніцтва па іску былога Старшыні КДБ Беларусі Генадзя Лавіцкага да некалькіх журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі. Генадзь Лавіцкі лічыць, што адказныя апарочылі яго імя недакладна выклаўшы ў сваіх выданьнях словы кандыдата на пост Прэзыдэнта А.Лукашэнка. Пад час паседжаньняісьцец зьняў прэтэнзіі да рэдактара аддзелу палітыкі газеты "Звязда" Валянціна Жданко і агенцтва Белінфарм. Сваё рашэньне спадар Лавіцкі матываваў тым, што распаўсюджаная агенцтвам і Валянцінам Жданко інфармацыя парочыць КДБ, а не яго асабіста.

**СІМ**

## ГЕРБЫ ВКЛ У ЭЎРАПЕЙСКІМ КАТАЛОГУ

Дзяржаўнай геральдычнай службай Беларусі на адрас эўрапейскага аб'яднаньня геральдыкі, якое месьціцца ў Нідэрландах, была адпраўлена ящчэ летась поўная інфармацыя аб паходжаньні дзяржаўных сымболяў Беларусі. А таксама, інфармацыя пра гісторыю гарадзкіх гербаў ВКЛ.

Адзін з арганізатараў справы, народны дэпутат Беларусі А.А.Трусаў на запыт карэспандэнта "Пагоні" расказаў: "Мы даслалі зьвесткі пра нашы сымбалі для таго, каб яны ўвайшлі да каталогу гербаў і штандараў Эўропы. Каталог сёлета выйшаў і ў іх значнае месца займае геральдыка ВКЛ. Зычу ўсім праглядзець яго. Хоць зрабіць гэта будзе цяжка, бо на Беларусь трапіла ўсяго некалькі паасобнікаў".

**Г.З.**

# АКАДЭМІК БАРЫС КІТ УПЕРШЫНЮ НАВЕДАЎ ГОРАДНЮ

**27-28 верасьня ў Горадні з неафіцыйным візітам знаходзіўся акадэмік міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, вядомы грамадзкі і педагагічны дзеяч Заходняй Беларусі і беларускай эміграцыі, славуты сын Прынёманскага краю, прафесар, доктар філасофіі Барыс Уладзіміравіч Кіт. Да шматлікіх навуковых і ганаровых званьняў Барыса Кіта днямі дадалося членства міжнароднай акадэміі "Еўразія", сесія якой адбылася 24-26 верасьня ў Менску і на якой наш зямляк быў абраны віцэ-прэзыдэнтам. Таму не дзіўна, што галоўную ўвагу віцэ-прэзыдэнта "Еўразіі" у Горадні прыцягнулі акадэмічныя і ўніверсітэцкія якасьці нашага горада, сустрэчы з навукоўцамі, абмеркаваньне перспектыў супрацоўніцтва з акадэміяй, якая ставіць сваёй мэтай зьбліжэньне і каардынацыю навуковых досьледаў у розных рэгіёнах Эўропы. У арганізацыі першага візіта Б.Кіта ў Горадню дапамаглі рэдакцыя газеты "Культура", рэктарат Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я.Купалы і Гарадзенская філія фонда падтрымкі дэмакратычных рэформаў.**



Барыс Кіт вядомы як адданы прыхільнік беларускай гісторыі і культуры. Яго выдатны архіў ахвяраваны Наваградзкаму гісторыка-краязнаўчаму музею, дзе адчынена экспазіцыя, прысьвечаная навуковай дзейнасьці Барыса Уладзіміравіча. Аб гэтым пісала "Пагоня" у сваім нумары ад 30 ліпеня 1993 г. Ня дзіўна, што першая экскурсія ў Горадні адбылася ў Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей. Аматарам гісторыі і навукі цікава будзе даведацца, што падчас экскурсіі Б.Кіт падараваў аддзелу рэдкай кнігі і старадрукаў музея экзэмпляр сваёй доктарскай дысертацыі, прысьвечанай гісторыі ўзьнікненьня матэматычнай школы Зыгмунда ў Заходняй Беларусі. Прафесар Б.Кіт прысутнічаў на лекцыі варшаўскага прафесара Лелейка, прысьвечанай гісторыі гарадзенскіх замкаў. Ён быў прадстаўлены мэру горада Генрыху Карпенку і віцэ-мэру Аляксандру Мілінкевічу. Вялікае захапленьне ў акадэміка выклікала гарадзенская старажытнасьць: муры старога замка, сьцены 1000-гадовых культавых пабудоў. 84-гадовы акадэмік наведаў і Каложскую гару, дзе пакланіўся гістарычнаму помніку "Пагоні на Грунвальд".

Сустрэча ў інстытуце біяхіміі з навуковымі супрацоўнікамі была не выпадковай. Заснавальнік інстытута акадэмік Астроўскі і яго вучні былі і раней асабіста знаёмыя з Б.У.Кітам, ведалі яго як руплівца аўтарытэту беларускай навукі і культуры. Як вядома, акадэмік Астроўскі ў астатнія дні свайго жыцьця выступіў ініцыятарам абраньня прафесара Б.Кіта ганаровым членам АН Беларусі. На жаль, заўчасная сьмерць акадэміка Ю.М.Астроўскага перашкодзіла выраштэньню гэтай справы. Барыс Уладзіміравіч пазнаёміўся з музеем акадэміка Астроўскага, усклаў кветкі да яго барэльефа. У навуковых лабараторыях інстытута адбылася зацікаўленая гаворка пра шляхі далучэньня біяхімікаў Горадні да эўрапейскіх біяхімічных і экалагічных праграм.

Са сьвяточным усхваляваньнем сустрэліся госьці і гаспадары ў Гарадзенскім дзяржаўным ўніверсітэце імя Я.Купалы. Па ініцыятыве маладога рэктара прафесара ЛеанідаКівача ў бягучым годзе Барысу Кіту Вучонай Радай ГрДУ было прысьвоена званьне ганаровага доктара навукі. Трэба падкрэсьліць, што гэта першае навуковае званьне акадэміка, якое ён атрымаў на роднай зямлі. На прыёме ў рэктарацы праф. Л.Ківач, прарэктар па навуковай працы А.К.Краўцэвіч праінфармíравалі госьця аб гісторыі і сучаснасьці Ўніверсітэта, перспектывах яго разьвіцьця, магчымасьцях стварэньня філіяў, у прыватнасьці, у Наваградку. У вялікай залі факультэта беларускай філалогіі і культуры адбылася сустрэча Б.Кіта са студэнтамі і выкладчыкамі навучальнай установы, у якой узялі ўдзел рэдактар газеты "Культура", паэтэса Вольга Іпатава, член СП Беларусі, біёграф Б.Кіта, навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН Беларусі Лідзія Савік. Прамова Б.Кіта, яго адказы на пытаньні выклікалі вялізную зацікаўленасьць аўдыторыі.

Барыс Уладзіміравіч ня мог не адведаць месца, дзе жыў яго стары сябра па беларускай нацыянальнай справе Рыгор Шырма. У часы "санацыі" яны разам былі звольнены за сваю патрыятычную дзейнасьць. Ускладзеныя ружы да барэльефа Рыгора Шырмы - успамін пра яшчэ адну старонку багатага мінулага гэтай незвычайна энергічнай, шматгранна таленавітай постаці. Знайшоўся час для непрацяглага, але вельмі зацікаўленага візіта ў дом-музей М.Багдановіча, знаёмства з паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай. А на разьвітаньне - кветкі да барэльефа Янкі Купалы каля Гарадзенскага ўніверсітэта - упершыню надаўшага славутаму навукоўцу ганаровы навуковы тытул роднай Бацькаўшчыны.

**Андрэй МАЙСЯЁНАК,**
**старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

# СТРАЦІЎШЫ ПРАЦУ, НЕ ГУБЛЯЙЦЕ НАДЗЕЮ

*Атрымаўшы дыплом лекара-стаматолага, Андрэй Ігнатовіч працяглы час безвынікова абіваў парогі гарадзенскіх стаматалагічных паліклінік. На жыцьцё зарабляў перапродажам на торжышчах рэчаў, што пастаўлялі да Горадні знаёмыя з Беластоку. Нечакана Андрэй зьнік з горада. Працяглы час мы не сустракаліся. Нядаўна Андрэй Ігнатовіч сустрэўся мне ў адной кавярні Горадні. За феліжанкай кавы разгаварыліся. Перапрадаючы польскія "шмоткі" Андрэй добра зышоўся з польскімі камерсантамі. Асабліва сяброўскімі былі стасункі Андрэя з Олекам Мушынскім. Олек - добры камерсант. Аб'ездзіў практычна ўвесь сьвет. Зьбіраць даляры за перапраданыя рэчы яму надакучыла. Аднойчы пра дыплом Андрэя ён выславіўся так: "Паехалі да мяне ў Польшчу, ва Ўроцлаве я маю па маці дзеда і бабулю, у іх добры дом бадай у самым цэнтры горада. На мае грошы купім мікрастаматалагічны кабінет і адкрыем сваю справу. Ты будзеш лекаваць, а я буду займацца справай здабыцьця лекаў і кліентуры."*

Андрэй даў згоду і вось ужо два гады як практыкуе лекарам-стаматолагам ва Ўроцлаве. Напачатку было цяжка, палякі не вельмі ахвотна ішлі лекаваць зубы да маладога дантыста. Але Олек знайшоў выйсьце: зрабіў дарагую рэкламу свайго стаматалагічнага кабінета на мясцовай тэлестудыі. Пасьля разрэкламаванай тэлебачаньнем працы прыватнага дантыста, які працуе на ангельскім абсталяваньні, зьявіліся кліенты. Андрэй працаваў і ў дзень і ў начы. Нярэдка прыхапіўшы свой інструмент выяжджаў на выклік па вострай болі. У беларуска-польскай суполкі зьявіліся грошы, сталыя кліенты. Каб стаць заможным чалавекам Олек праз сяброў з Канады набыў для кабінета малы артапедычны камплект. А Андрэй, каб стаць лекарам-артапедам, два месяцы студыяваў у Бельгіі на платных курсах. Зараз ва Ўроцлаве ў спадара Ігнатовіча і пана Мушынскага свая паліклініка на тры кабінеты. Ёсьць свой камп'ютар, дзе закладзены зьвесткі пра гісторыі хвароб кліентаў. Паслугі (а гэта пломбы, фізеатэрапія, і шмат іншага) выконваюцца толькі лекамі з ЗША, Канады і Велікабрытаніі. Пласьцінку, мост ці з'ёмны пратэз з фарфору ці золата ў лякарні Андрэя кліенту зробяць за два - максімум за тры дні. Разьлікі вядуцца з кліентамі толькі ў валюце. Мост з фарфору каштуе 250-300 даляраў, з'ёмны пратэз - 500-600 даляраў. І гэта не самыя высокія кошты. Ёсьць прыватнікі, якія з хворага бяруць за паслугі 1000 і болей "зялёных".

Вяртацца на Радзіму Андрэй не зьбіраецца, бо толькі ў Польшчы ён па-сапраўднаму адчуў, што такое павага. Менш чым "пан лекаж" да яго не зьвяртаюцца. У краме, рэстаране абслугоўваюць па вышэйшаму разраду. І хоць у кішэні Андрэя не заўжды густа, ён ахвотна дае на гарбату кельнеру.

Калі ад'яжджаў з Горадні, хатнія палохалі яго тым, што сярод палякаў ён не пражыве. Усё апынулася наадварот. У Польшчы Андрэй трапіў да асяроддзя дзелавых людзей, якія ў чалавеку бачаць найперш партнёра, калегу. Вярнуўшыся на Беларусь, наноў адчуў, што трапіў у вельмі зпалітызаванае грамадзтва, якому ёсьць справа да ўсяго, але ніхто не ведае дакладна, як гэтую справу выканаць.

Адносны камфорт ва Ўроцлаве расслабіў Андрэя. Варожасьць да заможных і проста багатых людзей пэўнай часткі гарадзенцаў палохае лекара Ігнатовіча. Ён вырашыў доўга на Бацькаўшчыне не затрымлівацца.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# КАБ МЕЦЬ НОВАЕ, ТРЭБА НАЙПЕРШ ЗАМАЦАВАЦЬ НАБЫТАЕ

**У Новым замку Горадні гарадзенскай філіяй фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі была наладжана практычная канферэнцыя "Геральдыка ў традыцыях мясцовага самакіраваньня Гарадзеншчыны".**

Пасьля рэгістрацыі ўдзельнікаў канферэнцыі прамову з нагоды адкрыцьця апошняй трымала адказны сакратар Гарадзенскай вабласной філіі спадарыня Тацьцяна Маліноўская. Пра традыцыі старажытнасьці ў мясцовай геральдыцы распавёў прафесар з Санкт-Пецярбурга Анатоль Пятровіч Грыцкевіч. Тэме гарадзкіх гербаў Беларусі было прысьвечана выступленьне спадара А.К.Цітова з Менску. Спадар Цітоў, у прыватнасьці, расказаў, што дзякуючы Магдэбурскаму праву на Беларусі такія мястэчкі, як Любча, Крэва, мелі статут горада і свае гербы. Менавіта ім, на думку прамоўцы, трэба вярнуць страчаны статут, што абавязкова пазітыўна адаб'ецца на іх эканамічным разьвіцьці. На традыцыях шляхецкай тэмы ў гарадзкой геральдыцы засяродзіў увагу сакратар Згуртаваньня Беларускай шляхты спадар Л.А.Акаловіч. Лявон Аляксандравіч пра ўдзел Беларускай шляхты ў фармаваньні гарадзкіх гербаў расказаў так: "Шляхецкія рады на зямлі Беларусі, засноўваючы свае памесьці, фальваркі, давалі ім свае гербы. Таму напрыканцы 18-га стагоддзя на нашай зямлі аднолькавымі правамі карысталіся як гарады, так і мястэчкі. Таму шляхта Беларусі прапануе не вяртаць маленькім паселішчам, дзе засталося па тры-чатыры хаты, гарадзкія гербы, якія мелі гэтыя населеныя кропкі ад Магдэбурскага права, а скарыстаўшы беларускую гістарычную традыцыю шляхты, надаць ім мястэчковы статут і адпаведны герб.

Думку спадара Акаловіча падтрымаў прадстаўнік на канферэнцыі Дзяржаўнай геральдычнай службы Беларусі спадар В.А.Насевіч.

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А.А.Трусаў у сваім выступе засьцярог дэлегатаў, што пры існуючай ўладзе на Беларусі неабходна замацоўваць як мага трывалей тое, што ўжо заваёвана. У іншым выпадку можа адбыцца тое ж самае з праблемай адраджэньня гарадзкіх гербаў, што і з гімнам нашай дзяржавы.

На фоне выступленьняў менскіх гасьцей вельмі сьціпла выглядалі гарадзенскія гісторыкі. Адно невялічкае іх выступленьне, якое сумесна рыхтавалі гарадзенскія гісторыкі Госьцеў і Швед, не задаволіла прысутных. І хоць гарадзенцаў і віншавалі з тым фактам, што пасьля Менску Горадня - другі горад, дзе ладзілася канферэнцыя, прысьвечаная адраджэньню геральдыкі гарадоў Гарадзеншчыны, на душы заставаўся сум.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

# «РАГНЕДА» – Ў СЛУЦКУ

Выйшаў у сьвет 5(7) нумар газеты "Рагнеда". Заснавальнікам яе з'яўляецца Салігорская раённа-гарадзкая рада Таварыства беларускай мовы. Газета друкуецца ў Слуцкай узбуйненай друкарні і мае наклад 999 паасобнікаў. Фундатарам "Рагнеды" выступае Таварыства з абмежаванай адказнасьцю "БелПВТТА".

У нумары дасьціпламу чытачу падаюцца гістарычныя зьвесткі аб паходжаньні назоваў беларускіх гарадоў Капыль і Нясьвіж, а таксама шмат разнастайнай рэгіянальнай інфармацыі.

**Г.Д.**

# АЎТАРА НЕ ЗАПРАСІЛІ

Напрыканцы верасьня на магіле забітага летась старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму Дзьмітрыя Арцымені ўстаноўлены бронзавы бюст. Вага скульптуры сягае 90 кілаграмаў. Яе выканаў гарадзенскі скульптар Анатоль Салетыцкі. Адлівалі бюст забітаму спадару Арцымені ў Менску. Кошт мэталу й ганарар скульптара захоўваецца ў таямніцы. Газета "Пагоня" мае зьвесткі, што частку сродкаў выдаткаваў аблвыканкам, частку - гарвыканкам, а астатняе ахвяравала сям'я нябожчыка.

Пасьля ўстаноўкі бюста, адказныя чыноўнікі справілі добрую гадавіну па Дзьмітрыю Канстаньцінавічу. На жаль, аўтара скульптуры не запрасілі ўшанаваць памяць ваяводы.

**Г.ПАДЛЯШУК.**

## У КУБКА СТАЛАЯ ПРАПІСКА

Напрыканцы верасьня ў Горадні прайшоў фінальны тур розыгрышу кубка Беларусі сярод жаночых каманд па хакею на траве.

Прыемна, што ў прэстыжным турніры ўзялі ўдзел восем калектываў. Сярод якіх першую скрыпку іграў шматвопытны гарадзенскі ХК "Рытм". Менавіта хакеісткі "Рытму" не заставіўшы якіх-кольвечы шанцаў, перамаглі сваіх малодшых саперніц з "Рытму-ІІ" - 6:0, затым паклалі на лапаткі "Тэкстыльшчык-ВЕСТ-АСКО" - 12:0 з Баранавічаў і "Тэкстыльшчык" з Воршы - 3:0, і выйшлі ў фінал, дзе іх саперніцамі нечакана апынуліся хакеісткі Вучылішча Алімпійскага рэзэрву з Горадні, якія неспадзявана для спецыялістаў узялі верх над сталічным "Камунальнікам" - 3:2.

На жаль, сапраўднай барацьбы ў галоўнай гульні турніру не атрымалася. Лік 10:0 на карысьць "Рытму" яскрава сьведчыць аб суадносінах сілаў. У выніку, ганаровы трафэй трэці раз запар атрымаў прапіску ў Горадні.

Лепшымі ў нашай каманьдзе былі прызнаныя М.Русіна, С.Зуева, Н.Русіновіч, С.Карэліна.

Сёлета флагманы беларускага хакею яшчэ давядзецца 13-15 кастрычніка паспрачацца ў Менску за чэмпіёнскі тытул з "Камунальнікам", "Тэкстыльшчыкам" (Вorша) і СДЮШАР (Горадня). Пасьля чаго ХК "Рытм" чакаюць выступы ў міжнародных турнірах. Каб удала выступіць на міжнароднай арэне, нашым дзяўчатам трэба фундатары. Таму праз "Пагоню" кіраўніцтва ХК "Рытм" запрашае да ўдзелу усіх жадаючых фундавацъ сродкі для разьвіцьця спорту.



## "НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО..."

Так калісьці, да сярэдзіны 70-х гадоў, выглядаў куток на перакрыжаваньні вуліц Сацыялістычнай і Ажэшкі ў Горадні, вядомы сярод моладзі таго часу як "біржа", месца традыцыйных сустрэч і прагулак. Але ўжо тады гарадзкім уладам стала цесна ў высотным будынку аблвыканкаму. "Перабудова" пахавала "біржу". Зараз яна ўяўляе пустое месца, няма тлуму, цішыня...

**Здымак з фотаархіва Ў. ВЫДЭРКІ.**

## ПЕРАМОГА НА ВЫЕЗЬДЗЕ

Удала правялі выязныя гульні ў адкрытым першынстве Расеі па хакею гульцы гарадзенскага "Нёмана". Беларускія хакеісты, выступаючы ў Аленегорску супраць мясцовага "Гарняка", нанесьлі таму паражэньне з лікам 3:2. Гульня праз дзень у адказ завяршылася з лікам 2:2.

* * *

Гульні 11-га тура нацыянальнага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь прынесьлі станоўчыя вынікі для клубаў Гарадзеншчыны. Лідзкі "Абутнік" на сваім полі перайграў 1:0 рэчыцкі "Ведрыч", а "Нёман" з Горадні на выезьдзе адабраў ачко ў "Шахцёра" з Салігорску.

**Г.Н.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

Крымінальны слупок па шкале грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны зноў перавысіў лічбу 200, бо менавіта за мінулы тыдзень зарэгістравана 151 злачынства і 57 здарэньняў.

У іх ліку 9 цялесных пашкоджаньняў, 3 згвалтаваньні, 5 разбояў, 4 рабаваньні, вымагальніцтва і 110 крадзяжоў.

У 32 дарожных аварыях 8 чалавек загінула і 29 паранена. Два ДТЗ - на сумленьні нецьвярозых вадзіцеляў.

За гэты ж час у вобласьці адбыліся 2 пажары.

## ЦЯЖКІЯ ЦЯЛЕСНЫЯ ПАШКОДЖАНЬНІ

Моцна "наехаў" раней судзімы жыхар Ліды Р. на свайго земляка, які зьбіраўся купіць у нідзе не працуючага Р. запчасткі.

Калі здзелка набліжалася да фіналу і здавалася, што 300 "зялёных" прыемна абцяжараць кішэню прадаўца, той чамусьці прыняў іншае рашэньне і, нечакана, ззаду, стукнуў пакупніка напільнікам па галаве.

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б на крык бацькі не прыбег яго дарослы сын. Удвох яны зьвязалі зламысьніка і даставілі Р. у міліцыю, дзе ён, праўда, доўга не затрымаўся, а быў тэрмінова шпіталізаваны, бо, напэўна, у напільніка і сапраўды два канцы.

## ХУЛІГАНСТВЫ

Напэўна вырашыў "закасіць" пад супермэна вайсковец тэрміновай службы, які завітаў у "госьці" да 22-гадовай гарадзенкі з... "Калашнікавым".

Ад непрыемнасьцей сяброўку вайскоўца выратавала тое, што АКСУ быў без патронаў і таму "візіт" скончыўся на парозе кватэры толькі напорыстым грукатам у дзьверы.

## СЕЗОННЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

Пачатак кастрычніка зноў адзначаны ростам крадзяжоў на лецішчах. На гэты раз першыя "ластаўкі" сезону з'явіліся на ўчастках каля турбазы "Нёман".

## КРАДЗЯЖЫ

Няўдачай скончылася спроба нідзе не працуючага слонімчанца пакаштаваць на дармаўшчыну моцных напояў. Верагодна, не ведаў злодзей, што крама "Віно-гарэлка" на вул.Чырвонаармейскай знаходзіцца пад пільным наглядам аб'яднаньня "Ахова". Вось і прыйшлося 19-гадоваму хлопцу назаўжды разьвітацца амаль з дзьвума скрынкамі сьпіртнога і часова - з воляю.

* * *

За мінулыя дні зноў пацярпелі ад злачынцаў аўтааматары. Але калі ў верасьні "модным" было здымаць вятравое шкло, то зараз злодзей пайшоў больш "музычны" - аматары магнітолаў. У выніку, чорны рынак магнітолаў павялічыўся на пяць адзінак.

## РАЗЯВАЦТВЫ

Два кашалькі з 367 далярамі, 300 тысячамі "зайцоў" і 19 тысячамі расейскіх рублёў страціла за адзін дзень работніца гарадзенскага гатэля "Турыст". Яно і не дзіўна, калі ўлічыць, што кабінет пацярпелай быў адчынены амаль увесь працоўны дзень.

* * *

Яшчэ большы ўрон, ды ўсё ў "зялёных", панесла настаўніца адной з гарадзенскіх школ.

Невядома, калі ўсё ж пацярпелая атрымае 3 тысячы даляраў, якія яна неабачліва дала ў доўг студэнтцы ўніверсітэта.

## П'ЯНСТВА

Аб тым, што п'янства нярэдка даводзіць да бяды, сьведчыць паведамленьне з Воранаўскага раёна. Там рабочы ДРБУ-120 на падпітку, пад час язды на трактары, зваліўся з прычэпа Т-150 і прама... пад кола.

На шчасьце, здарэньне не закончылася трагедыяй - небарака шпіталізаваны і праходзіць курс лячэньня.

## НІЗАСЬЦЬ

У морге вабласной бальніцы з трупа 11-гадовай дзяўчынкі ўкрадзены залатыя завушніцы.

Як кажуць, камянтары...

## САМАГУБСТВЫ

Пік самагубстваў прыйшоўся на першыя дні месяца.

Так, 1-га кастрычніка прараб мясцовага калгаса ў Астравецкім раёне кончыў з жыцьцём, стрэліўшы ў сэрца з паляўнічай стрэльбы.

Праз суткі, ужо ў Шчучыне, вадзіцель горгаза пад час сваркі з былою жонкай, у прысутнасьці малых дзяцей з мэтай самагубства ўдарыў сябе нажом у жывот. Вынік лятальны.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**

## ПЛЁТКІ, СКАРГІ І ПРАКУРОРЫ

- Алё, рэдакцыя? Вас турбуе намесьнік пракурора Ленінскага раёна Горадні Цімошчанка. Тут на вашу газету "Пагоня" скардзіцца ветэран Цітоў. Хацелася б сёе-тое ўдакладніць.

- Калі ласка, можаце атрымаць тлумачэньне зараз, па тэлефоне.

- Не, лепш вы зайдзіце да нас у пракуратуру на адрас Карбышава,3, там і дадзіце паказаньні.

Гэтая размова была ў пятніцу напрыканцы працоўнага дня. Панядзелкам раніцай я быў ужо ў пракуратуры. Чакаў нядоўга. Пётр Аляксандравіч Цімошчанка распытваў усё падрабязна, натаваў, што хацеў, перапытваў. Даў мне пачытаць заяву-скаргу таварыша Цітова.

На жаль, у сваёй заяве таварыш Цітоў усё пераблытаў. Напісаў зварот да дэпутатаў, дзе ў які раз абразіў дзяржаўныя сымболі нашай Беларусі. Ды яшчэ гэты бруд хацеў перадаць у форме загаду праз рэдакцыю народнаму дэпутату М.Маркевічу.

Паўтары гадзіны часу давялося страціць, пакуль усё патлумачыў шаноўнаму пракурору. Страчаны час, сустрэчы з людзьмі, што неабыякава для рэпарцёра ў сэнсе рэпутацыі. Мне шкада свайго дарэмна змарнаванага часу. Але яго не шкада траціць на безпадстаўныя апеляцыі таварышу Цітову і намесьніку пракуратуры.

Не туды скіроўваеце высілкі, паважаныя спадары Цітоў і Цімошчанка.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## НА ГАРАДЗЕНСКІХ ВУЛІЦАХ

**(замалёўкі з натуры)**

ЗЛОДЗЕІ

Дзьве жанчыны папрасілі крамніцу адкрыць бутэльку мінеральнай вады. Пакаштаваўшы, адна з іх з абурэньнем прамовіла:

- Вось табе і калі ласка. А газу ў вадзе зусім няма.

Сяброўка ахвотна яе падтрымала:

- Так, даражэнькая, крадуць. Ну ўсё зараз крадуць...

ІНТЭЛІГЕНТ

Выкладчык цытуе студэнтам вынятку са школьнага сачыненьня: "Балконскі ляжаў пад блакітным небам Аўстэрліца і займаўся самазадавальненьнем"... Студэнты дружна зарагаталі. Праз хвіліну адзін з іх, захлёбваючыся сьмехам, услых вымавіў:

- Ну, артысты! Гэта ж трэба слова такое выдумаць - Аўстэрліц...

КРЫК ДУШЫ

На прыпынку сталая жанчына намагаецца ўбіцца ў перапоўнены аўтобус. Пасьля некалькіх няўдалых спроб яна паварочвае галаву да тых, хто назіраў за гэтым відовішчам, і крычыць:

- Хлопцы, дайце ў плечы, бо не магу ўлезьці!..

МЕРКАВАНЬНЕ

У чарзе стаяць дзьве жанчыны. Наперадзе нейкі хлопец дастаў з кішэні "Снікерс" і пачаў з апетытам есьці. Адну з жанчын аж перадзёрнула.

- Ненавіджу, - зьвярнулася да знаёмай. - Як дзіця малое, шакаладку грызе. Па мне, дык лепей бы пад плотам п'яны валяўся. Адны "блакітныя" навокал, адны "блакітныя".

**Віктар ВАРАНЕЦ.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў N 30:

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5.Артыкул. 7.Лагчына. 9.Аскет. 10.Яшчарка. 11.Матуз. 14.Кума. 15.Дуля. 17.Рампа. 21.Клеўрэт. 23.Скварка. 24.Асаднік. 25.Каравай. 26.Лексіка. 27.Гамонка. 28.Пракуда. 31.Дзяруга. 34.Атрад. 37.Блін. 38.Рунь. 41.Ангар. 42.Чарамша. 43.Штора. 44.Інтрыга. 45.Ятроўка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1.Стаер. 2.Кляштар. 3.Блакада. 4.Дыван. 5.Арсенал. 6.Слалам. 8.Акучнік. 12.Купэ. 13.Гляк. 16.Аўчарка. 18.Абармот. 19.Паненка. 20.Кайстра. 22.Тайга. 23.Склад. 29.Разынкі. 30.Доля. 32.Зонд. 33.Гаворка. 34.Андарак. 35.Рэгаліі. 36.Друшляк. 39.Варта. 40.Стоўп.

## АБ'ЯВА

Гісторыка-культурны клуб "Паходня" запрашае гарадзенцаў на свае паседжаньні кожны чацьвер а 19-ай гадзіне ў памяшканьні гарадзкога Дома культуры.

**Рада "Паходні".**



## ВАМ ДАПАМОЖА ТЭЛЕФОН ДАВЕРУ

Калі у вас ёсьць праблемы і няма нікога, хто б дапамог вам іх вырашыць, тэлефануйце па тэлефоне 45-47-95 штодня з 7 да 24 гадзінаў. Вас уважліва выслухаюць, падкажуць, дадуць параду і абавязкова дапамогуць.



**"ПАГОНЯ"**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**

**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**

**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**

**Пры перадруку спасылка абавязкова.**

**Індэкс 63124. Ліцэньзія № 465.**

**Фотанабор, афсэтны друк.**

**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**

Заказ 3952.

Тыраж 4592 асобнікаў.